ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№43 (2497)

24 кастрычніка 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

## З УСІХ СВЯТАЎ — СВЯТА



14 кастрычніка ў нашай краіне на дзяржаўным узроўні адзначаўся Дзень маці. Да гэтага свята былі прымеркаваны адкрыццё Цэнтра сацыяльнай падтрымкі Беларускага саюза жанчын, многія мерапрыемствы. Адно з галоўных — адкрыццё выставы жывапісу мастака Аляксея Кузьміча "Свет славянскіх мадоннаў".

НА ЗДЫМКУ: А. КУЗЬМІЧ. "Палеская мадонна".

(Заканчэнне на 6-й стар.).

НАПЯРЭДАДНІ РЭФЕРЭНДУМУ

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

# «А НАОГУЛ, Я СКАЗАЎ УСЁ»

Пры ўсякім гаданні звычайна адказваюць на тры асноўныя пытанні: "Што было?" "Што ёсць?" "Чым сэрца супакоіцца?" З першым і другім — больш-менш зразумела. Асабліва хвалюе апошняе — што чакае заўтра. У палітычным пасьянсе — схема прыкладна тая ж. Аднак складанасць у тым, што і на другую частку сення адказаць цяжка. Ніяк не разбяромся: што адбываецца з намі і з краінай і хто вінаваты ва ўсім гэтым.

Канфлікт паміж Прэзідэнтам (менавіта Прэзідэнтам, а не ўсёй выканаўчай уладай) і кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета (а не ўсім складам парламента) існуе. Звяртае ўвагу на сябе, што супраць Аляксандра Лукашэнкі аб'ядналіся, здавалася б, такія вечныя антаганісты, як камуністы, аграрыі — з левага фланга, і дэмакраты ўсіх колераў і накірункаў — з правага. Натуральна, гэтае аб'яднанне носіць часовы, тактычны характар: усе члены кааліцыі "маюць зуб" на Аляксандра Лукашэнку. Прычыны, праўда, у кожнага на тое свае. Камуністы з аграрыямі, якія складаюць значную частку парламентарыяў, так і не змаглі зміръцца з занадта малым, на іх погляд, "кавалачкам" улады, выдзеленым ім Прэзідэнтам. Атрымаўшы на выбарах вялікую падтрымку насельніцтва, яны прэтэндавалі на значна большае. Дэмакратаў не задавальняе палітычная лінія, праводзімая кіраўніком дзяржавы. А таму, напрыклад, другі з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НА РАДЗІМУ НЕ ВЯРНУЛІСЯ

## ЛІСТ ДА УСЕВАЛАДА ІГНАТОЎСКАГА

Гэты архіўны дакумент прыцягнуў увагу тым, што меў уласнаручную пазнаку Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага: "З Казані. 6.II.24". Такіх лістоў народны камісар асветы ССРБ атрымліваў нямала. Роўны, прыгожы почырк, руская мова. Звяртаюцца да "таварыша Ігнатоўскага". Упамінанне аб Нясвіжскім павеце прымусіла ўважліва прачытаць дакумент да канца. Землякі, ураджэнцы Нясвіжчыны, — у Казані! Выкладзенае ў лісце выклікала незвычайнае хваляванне. Адчуваўся боль хлапчукоў ад страты дому, мовы, Радзімы. Яны звязвалі апошнія надзеі з заступніцтвам камісара асветы У. Ігнатоўскага.

Як вядома, савецка-польская дамова сакавіка 1921 года, кажучы словамі паэта Алеся Дудара, "пасекла наш край папалам". У Савецкай Беларусі паспяхова ішло будаванне беларускага дому: адчыняліся школы на роднай мове, пачаў працаваць універсітэт, разгортвалася беларусізацыя, адбывалася адраджэнне нацыянальна-культурнага жыцця. У Заходняй жа ўсё больш адчуваўся польскі ўціск. Таму для моладзі вельмі прыцягальнай была мара перасекчы мяжу і апынуцца там, дзе можна было вучыцца на роднай мове. Так і зрабілі героі нашага нарыса — двое з Нясвіжчыны і адзін з Вілейшчыны. Але такога прыёму, на які яны разлічвалі, у Савецкай Беларусі не атрымалі. Замест студэнцкай лаўкі ці рабфака ім прыйшлося прылегчы на нары ў Барысаўскім каранцінным лагеры.

Вось як характарызавалі Барысаўскі каранцін на пасяджэнні Прэзідыума Цэнтральнага Бюро КП(б)Б 4 снежня 1923 года (гэта прыкладна ў той час, калі там апынуліся нашыя героі): "Усяго ўтрымліваліся 785 чалавек, размешчаныя яны былі ў чатырох бараках. З іх: 60 працэнтаў беларусаў, 20

(Заканчэнне на 5-й стар.).

НАТАТКІ З АДНАГО СЕМІНАРА

## ЧАКАННЕ ЛІДЭРА

Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў пры падтрымцы Цэнтра міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва (Вашынгтон, ЗША) непадалёку ад Брэста правялі семінар "Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі". У асноўным дыскусія вялася вакол пяці грунтоўных дакладаў, падрыхтаваных навукоўцамі, палітычнымі дзеячамі. Доктар эканамічных навук Станіслаў Багданкевіч прапанаваў да ўвагі прысутных наступную тэму — "Узаемадзеянне грамадскіх лідэраў са структурамі ўлады". Даклад Юрыя і Галіны Дракахрустаў — "Роля недзяржаўных арганізацый у працэсах станаўлення грамадства і фарміравання грамадскіх лідэраў". Кандыдат філасофскіх навук Генадзь Праневіч прысвяціў сваё выступленне даследаванню повязяў палітычнай эліты з нацыянальнай культурай. Даклад вядомага парламентарыя Аляксандра Дабравольскага — "Узаемадзеянне грамадскіх лідэраў з электаратам". Доктар гістарычных навук Уладзімір Снапкоўскі прааналізаваў узаемадзеянне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі. Словам, усе даклады адпавядалі тэме, задавалі тон у адказнай і важнай дыскусіі.

Відавочна, што апошнія гады, а мо нават апошняе дзесяцігоддзе — той час, калі ці не ўпершыню ў сучаснай гісторыі Беларусі выразна паўстала пытанне грамадскіх лідэраў. Імі ж у значнай ступені можна назваць і тых жа Станіслава Багданкевіча, Аляксандра Дабравольскага. Іх практычна-палітычны вопыт — яскравае праяўленне грамадскай актыўнасці, жадання павесці за сабой, падштурхнуць грамаду да пэўных рашучых дзеянняў.

Большасць дакладаў, агучаных на семінары, маюць наступную адметнасць: аўтары не абмежаваліся вызначэннем агульных тэндэнцый у праблеме лідэрства. Дакладчыкі прапанавалі досыць канкрэтныя формулы ўзаемадзеяння лідэраў

(Заканчэнне на 3-й стар.).



На ніцях белай павуціны...

Фота Віктара СТАВЕРА.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ—ЛІТВА*

## СУСТРЭЧА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАЎ



**12 кастрычніка адбыўся рабочы візіт прэм'ер-міністра Літоўскай Рэспублікі Лаўрынаса--Міндаўгаса Станкявічуса ў Рэспубліку Беларусь.**

**Адразу ж пасля сустрэчы дэлегацыі на чале з прэм'ер-міністрамі дзвюх краін адправіліся ў вёску Рымдзюны Астравецкага раёна, дзе прынялі ўдзел у адкрыцці першай чаргі культурна-асветніцкага цэнтра.**

**На цырымоніі адкрыцця комплексу, што ўмясціў пад сваім дахам дзве сярэднія школы — з літоўскай і беларускай мовамі навучання, — кіраўнік літоўскага ўрада сказаў: "Нашы народы звязвае шмат агульнага. Упэўнены, што падобнае супрацоўніцтва толькі ўзбагаціць культуру літоўцаў і беларусаў, дапаможа ўмацаваць добрасуседскія адносіны".**

**Другая частка візіту была прысвечана вырашэнню шэрага канкрэтных пытанняў эканамічнага характару. Абмяркоўваліся і некаторыя іншыя надзённыя пытанні: пастаўка літоўскай электраэнергіі, работа мытных службаў, пачатак працэсу дэмаркацыі мяжы.**

**НА ЗДЫМКУ: дэлегацыі Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі прынялі ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці беларуска-літоўскай школы ў вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці.**

*З КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА*

## ДЭЛЕГАТАМ УСЕБЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СХОДУ

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 года, на якім грамадзянам трэба будзе зрабіць выбар паміж двума праектамі Канстытуцыі, прапанаванымі адпаведна Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Указаная дата правядзення рэферэндуму пацверджана Вярхоўным Саветам 11 кастрычніка 1996 года.**

**Прэзідэнт, нягледзячы на прынятае Вярхоўным Саветам рашэнне, выказаў намер правесці рэферэндум 7 лістапада 1996 года, разлічваючы пры гэтым на падтрымку дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу.**

**Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, заснаваны для забеспячэння канстытуцыйнай законнасці, кіруючыся артыкулам 34 Канстытуцыі, звяртае ўвагу дэлегатаў на тое, што ў адпаведнасці з артыкулам 74 Канстытуцыі права назначэння рэспубліканскага рэферэндуму і прызначэння даты яго правядзення належыць толькі Вярхоўнаму Савету. Ніякі іншы орган, ніякая службовая асоба, у тым ліку і Прэзідэнт, не маюць права назначыць рэферэндум ці змяніць дату яго правядзення.**

**Прыняцце Усебеларускім народным сходам якіх-небудзь рашэнняў па пытаннях, што ўваходзяць у кампетэнцыю Вярхоўнага Савета, будзе не чым іншым, як грубым парушэннем Канстытуцыі. Змяненні і дапаўненні Канстытуцыі, рашэнні па іншых пытаннях, прынятыя з парушэннем устаноўленага парадку, не могуць лічыцца законнымі і падлягаючымі выкананню.**

**Захаванне Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь — канстытуцыйны абавязак кожнага грамадзяніна (артыкул 52 Канстытуцыі). Парушэнне Канстытуцыі і законаў не можа быць апраўдана ніякімі доводамі і меркаваннямі.**

**Канстытуцыйны суд заклікае дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу праявіць высокую грамадзянскую адказнасць, мудрасць і паказаць прыклад паважлівых адносінаў да Асноўнага Закона Рэспублікі Беларусь.**

*Прынята на пасяджэнні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь 14 кастрычніка 1996 года.*

*СУПРАЦЬ РАДЫЯЦЫІ*

## ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

**Новы спосаб ачысткі ад радыеактыўнага забруджвання лясоў Беларусі, што пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, маюць намер праверыць амерыканскія і беларускія спецыялісты.**

**Групай вучоных і супрацоўнікаў адной з амерыканскіх кампаній плануецца падрыхтаваць план будаўніцтва ў нашай рэспубліцы эксперыментальнай электрастанцыі, якая будзе выпрацоўваць электраэнергію за кошт выкарыстання ў якасці паліва драўніны і смецця з лясоў, што пацярпелі ад радыяцыі. Радыеактыўныя элементы — пераважна цэзій і стронцый — застануцца ў попеле, які лёгка паддаецца захаванню.**

**Паведамленне аб гэтым праекце, кошт якога дасягае 1,6 мільёна долараў, зроблена ў Нацыянальных лабараторыях Сандыя ў Каліфорніі, што належаць Міністэрству энергетыкі ЗША. Узвядзенне доследнай электрастанцыі ў Беларусі намечана ўжо на красавік наступнага года, а на год пазней плануецца пачаць яе эксплуатацыю.**

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



**16 кастрычніка Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі сустрэўся са старшынёй Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр. Размова ішла вакол прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы і аб палітычным становішчы ў краіне напярэдадні маючага адбыцца рэферэндуму. Пані Фішэр выступіла на сесіі Вярхоўнага Савета.**

*ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## ЗАКЛАДЗЕНЫ ХРАМ-ПОМНІК

**"Перакананы, што толькі духоўнасць выратуе грамадства ад маральнай дэградацыі", — сказаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 14 кастрычніка на цырымоніі закладкі капсулы пад падмурак храма-помніка ў гонар Усіх Святых і Нявінна Забітых Айчыне нашай. Ён узводзіцца ў Мінску на вуліцы Каліноўскага ля каменя, асвячонага ў 1991 годзе Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Аляксіем II, і павінен, як задумалі аўтары, стаць грамадскім мемарыялам тым, хто склаў галовы ў баях за Радзіму. Тут будзе сабрана зямля з усіх палёў бітваў і брацкіх магіл, якіх так многа ў Беларусі.**

**Набажэнства з гэтай урачыстай нагоды прама ў катлаване для храмавага фундамента правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

**Храм-помнік будзе ўваходзіць у комплекс**



**Духоўна-адукацыйнага цэнтра Беларускай праваслаўнай царквы.**

**Разам з духавенствам удзел у закладцы капсулы пад падмурак храма Усіх Святых прынялі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, дэпутаты Вярхоўнага Савета, члены ўрада.**

*ЮБІЛЕІ*

## З ВЫЕЗДАМ У ВІЦЕБСК

**З кароткатэрміновым візітам у Віцебску пабываў кіраўнік беларускага парламента Сямён Шарэцкі.**

**Ён уручыў Ганаровую грамату Прэзідыума Вярхоўнага Савета старшыні Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў Уладзіміру Кулакову, якому споўнілася 60 гадоў. Юбіляр удастоены ўзнагароды за вялікі ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны, удасканаленне работы органаў дзяржаўнага кіравання, а таксама за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Дарэчы, Уладзімір Кулакоў вось ужо 12 гадоў узначальвае аблсавет.**

*У БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ*



**На палігоне "Дрэтунь" у Полацкім раёне адбыліся першыя доследна-тактычныя вучэнні беларускіх мабільных сіл. У іх прыняла ўдзел 350-я асобная мабільная гвардзейская брыгада, сфарміраваная на базе былой 103-й дывізіі. Байцы адпрацоўвалі дзеянні па "блакіроўцы і знішчэнню атрада "тэрарыстаў", што высадзіўся на іх тэрыторыі".**

**За вучэннямі назіралі міністр абароны Рэспублікі Беларусь Леанід МАЛЬЦАЎ і ваенныя аташэ з 16 замежных дзяржаў.**

**НА ЗДЫМКУ: баявая машына дэсанта ў наступленні.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЛІДСКІ доследны завод "Нёман" і Львоўскі аўтамабільны ўхвалілі праект сумеснай вытворчасці пасажырскіх аўтобусаў. Супрацоўніцтва з украінскімі партнёрамі мае прынесці лідчанам большыя выгады, чым з расійскім заводам "ЛіАз".

АДМІНІСТРАЦЫЯ свабоднай эканамічнай зоны "Брэст" і кіраўніцтва нямецкай фірмы "Heidt" падпісалі дамову аб будаўніцтве фабрыкі, якая будзе выпускаць йогурт, шакалад ды макаронныя вырабы. Нямецкая фірма ўкладае ў гэтую вытворчасць 12 мільёнаў марак. "Heidt" — першы зарубежны інвестар "Брэста".

ВЫЙШЛА з друку чарговая кніга з серыі "Памяць". Яна прысвечана Любанскаму раёну. Звесткі ад сівой мінуўшчыны і па сённяшні дзень, многія старонкі гісторыі Любаншчыны, адкрытыя ўпершыню, жыццяпіс вядомых падзей гэтай зямлі ўтрымлівае кніга "Памяць".

ПЕРШУЮ прыступку ў беларускім экспарце за 8 месяцаў гэтага года займаюць мінеральныя прадукты. Іх доля ў агульным аб'ёме складае 15 працэнтаў. На другой пазіцыі — грузавыя аўтамабілі, трактары, веласіпеды. На трэцім месцы — абсталяванне і прыборы.

СЁЛЕТА на чыгуначных пераездах Беларусі адбылося 39 сутыкненняў цягнікоў з рознымі транспартнымі сродкамі. Сем з іх — з аўтамабілямі. Загінула 9 чалавек. Прычына — едуць на забараняючы сігнал светафора.

ЧАКАНАГА ў канцы 1997 года адкрыцця станцый Мінскага метрапалітэна "Партызанская" і "Аўтазаводская" не будзе. Гэта падзея можа адбыцца, відаць, пасля 2000 года. Мінскі метрапалітэн сёння не мае дастаткова ані грошай, ані кадраў для паспяховага будаўніцтва новых ліній падземкі.

*НЕЗВЫЧАЙНАЯ ВЫСТАВА*

## «ЯДНАННЕ Ў БОГУ»

**Свае работы — вышыўкі брыльянтамі, жэмчугам, бісерам выставіла ў абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці віцебская майстрыха Галія Багаціева. Выстава называецца "Яднанне ў Богу — мір на планеце" і прысвечана праблемам Сусвету. Эфект пагружэння ў космас ад прагляду карцін з каштоўных камянёў узмацніла медытатыўная музыка Анджэя Краўцова, якая гучала ў зале.**

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*

## АД ГУМАНІТАРНАГА ФОНДУ

**Матэрыяльная дапамога на суму 100 тысяч нямецкіх марак паступіла ў Беларусь з Германіі. Яна арганізавана Міжнародным гуманітарным фондам (МГФ), што ўзначальвае прафесар, доктар Карл Кох, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Брусэлі, а таксама рэспубліканскім дабрачынным фондам дапамогі дзіцячым дамам "Сіроцкае брацтва", якімі апякуюцца беларускія бізнесмены.**

**"Мы прывезлі зусім новыя рэчы, — сказала выканаўчы дырэктар МГФ Джулія Глазер, — і былі рады падарыць іх маючым патрэбу беларускім дзецям. Акрамя таго, дастаўлена сучаснае абсталяванне для Бярэзінскай раённай бальніцы".**

**Міжнародны гуманітарны фонд мяркуе адкрыць у Беларусі другую лінію падтрымкі бедных людзей. Яна накіравана на стварэнне дабрачыннай сталовай.**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

# «А НАОГУЛ, Я СКАЗАЎ УСЁ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

разгледзеўшы пытанне пра палітычнае становішча на Беларусі, прыняў зварот да Вярхоўнага Савета аб імпічменце Прэзідэнту. З гэтым рашэннем на адным з нядаўніх пасяджэнняў дэпутатаў пазнаёміў Станіслаў Багданкевіч. Дарэчы, сярод цяперашніх парламентарыяў 13 членаў АГП. Тады ж С. Багданкевіч заявіў і наступнае: "Настаў вырашальны момант".

Паспрабуем паглядзець, што яшчэ сёння ў краіне акрэслілася досыць выразна. Як ні дзіўна, але ў талерантнай і спакойнай Беларусі ўсё больш праяўляецца процілегласць палітычных поглядаў сярод асобных груп насельніцтва. Прычым, тут назіраецца ўсё ўзрастаючая жорсткасць у адстойванні сваіх пазіцый. І гэта асабліва трывожна і сумна. Бо звычайна спрачаюцца людзі аднолькава бедныя і аднолькава бяспраўныя, якім няма чаго дзяліць. Нярэдка іх проста нацкоўваюць адзін на аднаго, каб чужымі рукамі цягаць з полымя каштаны.

Тым не менш, нехта ж разумее падаплёку многіх падзей. Лідэр фракцыі камуністаў Сяргей Калякін пасля таго, як паўдзельнічаў у сесіі Навапалацкага гарсавета, дзе сярод іншага разглядаліся праекты Канстытуцый, вынесеныя на рэферэндум, падкрэсліў: "Лейтматывам усіх выступленняў гучала перакананне ў тым, што сёння не час праводзіць рэферэндумы і мяняць Канстытуцыю. Неабходна, каб Прэзідэнт і Вярхоўны Савет дамовіліся, стварылі пагаджальную камісію і прыйшлі да "нулявога варыянта" па правядзенню рэферэндуму".

Сацыялагічныя даследаванні таксама малююць карціну далёка не аднародную. Як паведаміла газета "Звязда", вераснёўскае апытанне, праведзенае лабараторыяй Андрэя Вардамацкага "Новак", высветліла, што хаця пра свой намер удзельнічаць у рэферэндуме заявілі 73,8 працэнта апытаных, пакуль за Прэзідэнцкі праект Канстытуцыі гатовы прагаласаваць толькі 40,7 працэнта. Для перамогі ж патрэбна больш за 50 працэнтаў усіх выбаршчыкаў, уключаных у спісы.

Сёння сітуацыя складваецца так, што нават невялікая нязгода з "генеральнай лініяй" Прэзідэнта лёгка прывядзе да страты кіраўніком пасады і работы. А таму многія лічаць за лепшае трымаць сваё меркаванне ў кішэні. Магчыма гэтым выклікана чарговае "непаразуменне" Прэзідэнта і значнай часткі — 110 чалавек — дэпутатаў, якія падпісалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі. У абмен на кампрамісы з боку Прэзідэнта, яны выказалі намер змяніць сваё рашэнне адносна рэферэндуму. Але выніковае галасаванне, тайнае, па бюлетэнях, прынесла наступны вынік: 84 — "за", 88 — "супраць" перагляду ўжо прынятых раней пастаноў. Прэзідэнт назваў такі паварот яшчэ адной "здрадай" парламентарыяў, бо гэта ўжо не першы выпадак, калі дэпутаты на розных там сустрэчах нібыта з ім пагаджаюцца, а ў Авальнай зале сваё меркаванне рэзка мяняюць. Упарта ходзяць чуткі, што пры зборы тых 110 подпісаў пад зваротам некаторым дэпутатам проста "выкручвалі рукі", пагражалі.

Але ўсё гэта толькі магчымае тлумачэнне паводзін парламентарыяў, а не апраўданне. Той жа Сяргей Калякін, звяртаючыся на пленарным пасяджэнні да калег, гаварыў, што пры сустрэчах з людзьмі чуе шмат папрокаў, што яны, дэпутаты, думаюць не пра краіну і народ, а толькі пра сябе, як прадоўжыць уласныя паўнамоцтвы.

Агулам хаяць усіх — справа няўдзячная, але тое, што ў нечым Сяргей Калякін і яго выбаршчыкі маюць рацыю, безумоўна. Сярод тых кампрамісаў, на якія пайшоў Прэзідэнт, было наступнае: усе (!) дэпутаты аўтаматычна пераходзяць у новы парламент, і новы тэрмін іх паўнамоцтваў, як і прэзідэнцкіх, будзе адлічвацца з моманту прыняцця на рэферэндуме Канстытуцыі. Мала таго, у выключным парадку, у адрозненне ад наступных складаў парламента, якія будуць дзейнічаць па 4 гады, цяперашні папрацуе пяцігодку. Як сказаў Прэзідэнт, "згадзіцеся, нядрэннае дапаўненне ці ўдакладненне да прапаноў дэпутатаў". Сапраўды, нядрэннае.

Дарэчы, наконт даты. Дэпутаты настойліва дапытваліся, чаму Прэзідэнт так чапляецца менавіта за 7 лістапада, дзень, калі на працягу сямі дзесяцігоддзяў святкавалася перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі, што прывяла да ўлады бальшавікоў. Аднак яснага адказу так і не пачулі: сказаў сёмага, значыць, сёмага. Тым больш, па словах самога Аляксандра Лукашэнкі, ён "не разглядаў гэты праект Канстытуцыі, як назаўсёды застылую догму, і не разглядае яго і зараз". А адсюль можна меркаваць, што краіну чакаюць не толькі новыя Асноўныя Законы, але, калі ўсё будзе рабіцца так, як сёння, то і бясконцыя палітычныя канфрантацыі, процiборствы асобных уладных груповак і нянавісць насельніцтва да сябе падобных і ўсяго чалавецтва ў цэлым. Няўжо гэтым "сэрца супакоіцца"? А чаму і не? Развітваючыся з парламентарыямі, Прэзідэнт паведаміў: "А наогул, я сказаў усё". У сэнсе, хопіць, больш з вамі размоў не будзе.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ЧАКАННЕ ЛІДЭРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-стар.).

з грамадствам, з уладай. Нездарма ж даследаванне Станіслава Багданкевіча носіць даволі канкрэтны структурны падзел. Найперш — "Сродкі ўздзеяння грамадскага лідэра". У чым жа яны? Станіслаў Антонавіч у адказе на гэтае пытанне даволі лаканічны: сцвярджэнне, паўтарэнне і распаўсюджванне. Праўда, наўрад ці варта ўспрымаць як аксіёму наступнае перакананне дакладчыка: "Ідэі, пачуцці, успаміны, эмоцыі і вера распаўсюджваюцца ў соцыуме, як бактэрыі ў час эпідэміі грыпу. Павінен быць магутны ідэалагічны рухавік распаўсюджвання. І шкада, што, назваўшы неабходнасць ідэалагічнай і палітычнай рэкламы, дакладчык не звярнуў увагі на месца сродкаў масавай інфармацыі ў гэтай справе". Якімі ж бачацца С. Багданкевічу механізмы ўздзеяння грамадскіх лідэраў на структуры ўлады? Яны традыцыйныя для ўсяго свету — работа ў структурах і камісіях парламента, удзел у законатворчым працэсе, праца з выканаўчай уладай, удзел у кантрольных органах. Праўда, у раздзеле пра механізм уздзеяння на структуры ўлады С. Багданкевіч прысвяціў пэўнае месца СМІ. Але ж пра тэхналогію ўсё ж не павёў размову. Даволі слушная наступная заўвага доктара эканамічных навук: "У той час як Прэзідэнт змог выйсці на этап фарміравання веры, ніхто з грамадскіх лідэраў не сфармуляваў яшчэ дастаткова паспяховай, маркетынгавай палітычнай ідэі." Сапраўды, згодна з апытаннем грамадскай думкі, адрыў Лукашэнкі ад выразных нядаўна лідэраў велізарнейшы. Прэзідэнту давяраюць 44,8 працэнта з ліку апытаных. Шушкевічу ўсяго толькі 5,2 працэнта. Пазняку і таго меней — 4,6.

Але ж так ці іначай для грамадства важна прыняцце рашэння. Наколькі эфектыўны ўдзел грамадскіх лідэраў у ажыццяўленні данага клопату? Эфектыўны, ды толькі пры ўмове наяўнасці ў паводзінах лідэра наступных, даволі значных фактараў. А гэта — асабістая перакананасць лідэра і накіраванасць, уменне прадставіць важкія аргументы; веданне патэнцыяльна моцных бакоў і слабасцяў апанентаў ці таго органа, каторы нясе адказнасць за прыняцце рашэння; здольнасць маніпуліраваць эмпірычнымі фактарамі і прадстаўляць у патрэбным для сябе свеце; уменне выкарыстоўваць свой прэстыж і прэстыж асоб, якія падтрымліваюць яго ідэі, падтрымка як мага большай колькасці людзей і здольнасць апеляваць да іх патэнцыяльнага ўздзеяння ў выпадку прыняцця іншага, не задавальняючага лідэра рашэння... Пералік фактараў можна доўжыць. Тое, што С. Багданкевіч звярнуў на іх увагу, пераканала асабіста мяне: нашы грамадскія лідэры (калі лічыць за такіх многіх і многіх палітыкаў, чые імёны на слыху) сапраўды не ведаюць элементарных рэчаў, займаюцца мястэчковым, у горшым сэнсе гэтага слова, палітыканствам. І ёсць тут пэўнае шкадаванне, што з ціхага камернага мерапрыемства семінар не ператварыўся ў грунтоўную нараду па "ліквідацыі бязграматнасці" ў кагорце грамадскіх лідэраў.

Сапраўдную дыскусію выклікаў на семінары даклад Генадзя Праневіча "Палітычная эліта і нацыянальная культура". І нават не столькі па самой тэме даклада, колькі ўвогуле па пытаннях, праблемах беларускасці. Супержахлівым падалося, прызнацца, перакананне адной з удзельніц дыскусіі, што паміж беларускім і нацыяналістычным патрэбна паставіць знак роўнасці. Але ўжо хопіць адно толькі крыўдзіцца альбо абурацца з данай акалічнасці. Беларускасць заўжды суправаджаецца ўзвышэннем і блізкім па часе да яго прыніжэннем. Чаму такія няўважныя да нацыянальных пытанняў дэмакратычныя лідэры? Нават дэмакратычныя лідэры... Выходзіць, што заўтра, стаўшы да руля ўлады, дэмакраты ўвогуле ў сферы нацыянальнага стануць не меншымі дыктатарамі, чым колішнія псеўдалідэры камуністычнай фармацыі? Думаецца (і гэта заўвага найперш да даклада спадара Праневіча), у сферы судакранання лідэра з беларускім пытаннем размова павінна ісці не пра амаль што гісторыка-адукацыйнае засваенне нацыянальнага матэрыялу, а пра ролю нацыянальнага фактара, нацыянальнай глебы ў фарміраванні духоўна-палітычнай перспектывы грамадства.

З цікавасцю ўдзельнікі семіра азнаёміліся з дакладам вядомага беларускага гісторыка Уладзіміра Снапкоўскага "Узаемадзеянне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі". У свой час вучоны выступіў на старонках часопіса "Нёман" з адметным, дакладным на вызначэнні артыкулам "Эліта". На семінары спадар Снапкоўскі як бы прадоўжыў, развіў раней узятую тэму. Але звярнуў ужо больш увагі на адзін з яе абсягаў.

Сёння Беларусь знаходзіцца ў стане крызісу — эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага. І ўсё ж трагедыі з гэтага рабіць не варта. Патрэбна шукаць выйсце. На чале пошукаў — лідэры. І нават не кожны з іх паасобку, а ўсе разам. Але ж каб разам, то неабходнай умовай з'яўляецца кансалідацыя. А зараз, кажучы словамі спадара Снапкоўскага, "ва ўзаемадзеяннях лідэраў прэваліруюць элементы канфрантацыі. Аморфнасць сацыяльнай структуры, неўсвядомленасць сацыяльна-партыйных інтарэсаў, папярызацыя грамадства, рэзкія змены ў шкале каштоўнасцяў, нізкі ўзровень палітычнай культуры мас — усё гэта з'яўляецца крынічным асяродкам для нестабільных, ненармальных адносін паміж палітычнымі лідэрамі. Палітыкі ў адносінах адзін да аднаго кіруюцца асабістымі амбіцыямі, персаніфіцыруючы такім чынам палітычны працэс і механізм палітычнага лідэрства. У іх узаемаадносінах, відавочна, не хапае канструктыўных элементаў узаемадзеяння і супрацоўніцтва".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## *ЯШЧЭ АДНА ГІМНАЗІЯ*





**Свой васемнаццаты навучальны год сярэдняя школа № 12, першая ў мікрараёне Паўднёвы Захад у Мінску, які раскінуўся сёння ад Пятроўшчыны да Малінаўкі па Брэсцкай шашы і ўздоўж кальцавой дарогі дацягнуўся да іншых мікрараёнаў беларускай сталіцы, пачала ў ролі гімназіі.**

**— Гімназія! Натуральна, усё ішло да гэтага, — гаворыць дырэктар школы Кацярына Петруша, якая працуе тут з першых дзён. — У школе склаўся дружны калектыў высокакваліфікаваных педагогаў, якія даюць дзецям паўнацэнныя веды, выпускаюць вучняў, добра падрыхтаваных да жыцця. У апошнія гады нашы выпускнікі-абітурыенты практычна ўсе паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Школа мае некалькі профіляў навучання — юрыдычны, эканамічны, медыцынскі, працуе з эстэтычным ухілам, гэта значыць апрача вывучэння агульнаадукацыйных дысцыплін дзеці вучацца харэаграфіі, ігры на музычных інструментах, удзельнічаюць у розных конкурсах. Так што адкрыццё гімназіі ў нашай школе Маскоўскі райвыканком зацвердзіў без ваганняў.**

**Пётр ПАБОКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: М. ПЛАКСА і В. РУДАКВАС — выкладчыцы англійскай і беларускай моў; яны сталі гімназістамі ў дзесятым класе.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Не ўяўляла б асаблівай цяжкасці папоўніць лік людзей з падобнымі, як у Мялецція Сматрыцкага і Сімяона Полацкага, меркаваннямі і дачыненнямі да грэка-рымскай царквы. Усё гэта можа разглядацца ў якасці доказу, што з распаўсюджваннем уніяцтва на Беларусі нічога трагічнага не адбылося ў яе жыцці. Таму нельга цалкам пагадзіцца з сучасным філосафам С. Падокшыным, які піша: "Вялікай памылкай дзяржавы, урада, беларускай феадальнай эліты была пераарыентацыя з ідэі рэлігійна-канфесіянальнай талеранцыі на ідэю вуніі", бо ўжо і тады сапраўднай талеранцыі ў нас не існавала паміж хрысціянскімі канфесіямі і цяжкім з'яўлялася прадбачыць, у ва што ўсё гэта магло выліцца, бо за кожнай з іх і асабліва праваслаўнай і каталіцкай стаялі пэўныя антыбеларускія не толькі духоўныя, але і свецкія сілы. У такіх умовах для беларусаў значна лепш было заставацца не шматканфесійным народам, а рабіць усё, каб стаць аднаканфесійным, чаго якраз і можна было дасягнуць праз унію, каб толькі да яе з належнай павагай паставілася каталіцкае духавенства, а не імкнулася выкарыстаць даны фактар для ўсё той жа паланізацыі славянскага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Яшчэ раз паўтаруся, што адзінай памылкай, неабачлівасцю праваслаўных іерархаў — аўтараў Берасцейскай царкоўнай уніі было толькі тое, што яны не адразу "раскусілі", чаго ад яе чакае польскае каталіцкае духавенства. Таму і не дзіўна, што сапраўднай царкоўнай уніі не адбылося ні ў час яе падпісання, ні пазней. Увесь час ішло пашырэнне уніі праз звычайнае далучэнне да апошняй вернікаў праваслаўнай царквы з прызнаннем ёю верхавенства папы і захаваннем сваіх абрадаў, для чаго зусім не патрэбна было сустракацца ў Бярэсці разам з высокімі духоўнымі каталіцкімі асобамі, бо яны ж не збіраліся, накшталт праваслаўных, пераводзіць свае прыходы ва уніяцкія.

Затое праваслаўныя вярхі вельмі хутка зразумелі, што для польскага каталіцкага духавенства перавод усходняй царквы ва уніяцкую зусім не ёсць канчатковая мэта. Ёю з'яўлялася паступовае перацягненне уніятаў у католікаў. Нічога з гэтым не атрымалася. Унія, нягледзячы нават на велізарныя намаганні езуітаў, не стала пераходным станам ад праваслаўя да каталіцызму. Яна заставалася сама сабой і ўсё больш і больш урастала ў жыццё беларускага народа, набываючы ўсе рысы нацыянальнай рэлігіі. Прыналежнасцю да уніі беларускі народ найлепшым чынам падкрэсліваў сваё адрозненне як ад палякаў, так і ад рускіх. Унія нават на сваім першым этапе была ўжо ў нейкай ступені беларускай з'явай. Што унія выратавала нашых продкаў ад паланізацыі і русіфікацыі, прызнавалася многімі вучонымі. Характэрнае ў гэтым плане меркаванне гісторыка Адама Кіркора. Ён лічыў, калі б езуіты "пастараліся абарачаць народ хаця паступова прама ў лацінства, дык, на працягу двух з гакам стагоддзяў, яны ўсю Беларусь зрабілі б польскаю". На шчасце, яна не стала такой, у чым немалая заслуга уніяцтва.

Насуперак здароваму сэнсу, хрысціянскай маралі польскае каталіцкае духавенства амаль увесь час імкнулася нацкоўваць уніятаў на праваслаўную царкву. Зведалі гэта і пабудаваныя ў Мінску ў другім дзесяцігоддзі XVII ст. Петрапаўлаўскі мужчынскі манастыр, праваслаўная царква і школа. Мінская польская шляхта, якая засталася незадаволенай вынікамі барацьбы за авалодванне гэтымі ўстановамі, ужо сама ўварвалася ў 1637 годзе ў праваслаўную царкву і ўчыніла ёй страшэнны разгром. Падобнае паўтаралася ў 1722 і 1734 гадах.

Акрамя не такіх ужо і рэдкіх выпадкаў парушэння прынцыпу добраахвотнасці пераводу праваслаўных ва уніяцтва, што перашкаджала папулярызацыі апошняга, мелі месца і іншыя фактары, якія не садзейнічалі яго хуткаму распаўсюджванню ў нашым краі і найперш — погляды на даную з'яву саміх вернікаў. І гэта зусім заканамерна. Народ не мог быць абыякавым і раўнадушным да веры сваіх продкаў. Як-ніяк пад той час праваслаўю на Беларусі ўжо налічвалася некалькі стагоддзяў. Не трэба забывацца, што адыход ад яго вельмі ўсхваляваў царкоўныя і свецкія ўлады Маскоўскай дзяржавы, у якіх мелася дастаткова магчымасцяў, каб у пажаданым для сябе напрамку ўплываць на рэлігійнае жыццё сваіх аднаверцаў на Беларусі. Іх рэлігійныя настроі пры аказіі няцяжка было пераплесці з антыфеадальнай барацьбой сялян супроць шляхты і магнатаў, пераважная частка якіх адступіла ад праваслаўя. У мяне зусім няма падстаў не давяраць сказанаму ў 1622 годзе папскім нунцыем у Польшчы Торэсам: "Не паддаецца апісанню, наколькі рускі народ (так яшчэ і ў XVI—XVII стагоддзях у Заходняй Еўропе некаторыя палітыкі і вучоныя называлі этнічных беларусаў Рэчы Паспалітай. — **Л. Л.**) ненавідзіць рымскіх католікаў. Гэтая нянавісць даходзіць да такой ступені, што, убачыўшы рымска-каталіцкага ксяндза, яны плююць на зямлю ад жаху і агіды". Далей Торэс піша, што "мала русінаў (таксама адна з сярэдневяковых назваў беларусаў. — **Л. Л**) пераходзіць ва унію і што перашкоды ў схіленні іх большыя, чым у схіленні лютэран і кальвіністаў".

Гісторыі вядома, што ў падобных выпадках іерархі любой канфесіі пры падтрымцы самой дзяржавы гвалтам, у масавым парадку і досыць хутка навязвалі народу новую веру. На Беларусі не пайшлі на такое, у чым, на маю думку, перш за ўсё вялікая заслуга і тых, хто ўзначальваў тут уніяцтва. Калі б яны не былі аўтарытэтнымі перад Ватыканам, апошні мог бы ўжыць зусім іншыя сродкі, тым больш, што гэта было б вельмі даспадобы польскаму каталіцкаму духавенству. У данай жа сітуацыі ён не бачыў іншага выйсця, апроч асцярожнасці, на якой так настойвалі папскія нунцыі ў Польшчы, у тым ліку і Торэс. Ён прапаноўваў паступова прызначаць уніятаў на епіскапскія кафедры, якія заняты праваслаўнымі, і, відаць, ведаючы экспансіяніссцкія, асімілятарскія настроі польскай каталіцкай царквы і свецкай улады, рэкамендаваў "апостальскай сталіцы" (г. зн. Ватыкану) узяць унію пад асаблівае заступніцтва. І толькі там, дзе ў справу распаўсюджвання уніяцтва ўдавалася ўключыць моладзь езуіцкіх навучальных устаноў ці іх нядаўніх выпускнікоў, сярод якіх было нямала і беларусаў, назіраліся розныя формы гвалту і прымусу, што магло дзе-нідзе і паспрыяць росту ліку вернікаў новай для ВКЛ хрысціянскай канфесіі.

У першыя гады пасля падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі найбольш канфліктаў з гэтай нагоды назіралася ў самой Вільні, дзе ўжо даволі моцнымі былі пазіцыі католікаў і верных ім служак — езуітаў. Усю вастрыню сваіх атак яны скіроўвалі на праваслаўнае брацтва пры св. Троіцкім манастыры, якое знаходзілася паблізу адзінага ў гэтым горадзе праваслаўнага храма св. Духа. Тут жа размяшчалася і брацкая школа. У 1598 г. "праваслаўныя вільняне збіраліся сустрэць вялікдзень. У вялікую суботу натоўп нафанатызаваных студэнтаў мясцовай езуіцкай калегіі (акадэміі), у колькасці 50 чалавек, на чале з ксяндзом Геліяшэвічам, уварваўся на брацкі двор, дзе знаходзілася брацкая школа (калегіум) і царква св. Духа... Са школы буйныя шкаляры ўварваліся ў царкву, дзе ўчынілі страшныя бясчынствы ў алтары і блюзнерылі з плашчаніцы. У самае свята вялікдзеня ў час набажэнства яны таксама натоўпам увайшлі ў царкву і дапусцілі тыя ж агіднасці ў дачыненні да святыняў храма і здзек з тых, хто маліўся. У той жа дзень (першы дзень вялікдзеня) увечар буйныя езуіцкія выхаванцы ўжо трэцім разам уварваліся ў царкву св. Духа, але ўжо ўзброеныя.

(...) Потым выбеглі на вуліцу і, злучыўшыся з натоўпам рымскіх католікаў, якія стаялі тут жа на вуліцы, сталі штурмаваць брацкую школу і дом, які належаў таму ж брацтву. Былі выламаны вароты і жалезныя краты, выбіты вокны, пашкоджаны сцены, паранена школьная і царкоўная прыслуга. На другі дзень група школьнікаў ізноў зрабіла свой разбойніцкі набег на брацкую Троіцкую школу".

Безумоўна, такія бясчынствы ні ў якім разе нельга аднесці на рахунак радавых каталіцкіх і уніяцкіх вернікаў, хаця яны маглі і не стаяць у баку ад усяго, што ў той дзень тварылася ў сталічным горадзе ВКЛ. Канфлікт на рэлігійнай глебе быў перш за ўсё вынікам умяшання ў царкоўнае жыццё Вільні высокіх духоўных асобаў каталіцкага касцёла.

Аднойчы і Канстанцінопальскі патрыярх зрабіў памылковы крок, які пасадзейнічаў масаваму прытоку праваслаўных ва уніяцтва. Такім крокам было прынятае ім у 1684 годзе рашэнне аб перадачы ўсіх праваслаўных Рэчы Паспалітай пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярха, да чаго ўвесь час імкнуўся апошні, але чаго не хацела большасць праваслаўных беларусаў. У створанай Канстанцінопальскім патрыярхам сітуацыі многія палічылі за лепшае стаць уніятамі, чым перайсці пад юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы.

Удумлівыя, разважлівыя праваднікі уніяцтва не апраўдвалі любыя насільныя метады, бо ведалі, што ў падобных выпадках яно не мела б падтрымкі ў народзе і пры пэўных акалічнасцях на яго месца вярталася б праваслаўе. Зусім іншыя вынікі атрымліваліся тады, калі ва ўсім зыходзілі з патрабаванняў Берасцейскай уніі. У дакументах засведчана, што на трэцім дзесятку гадоў пасля яе падпісання беларускія уніяты вельмі моцна трымаліся за новую веру і не менш за праваслаўных супраціўляліся спробам навязаць каталіцкую рэлігію як канчатковую мэту свецкіх і духоўных уладаў Польскай Кароны. І так трымаліся, зразумела, таму, што новая вера не была ім навязана гвалтам і мела, дзякуючы павазе да мясцовых нацыянальных традыцый, перавагу над праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі.

Калі праваслаўныя святары і іх паства ішлі да уніяцтва паступова, праз усведамленне яго неабходнасці (чым у асноўным і можна растлумачыць, што гэты працэс на Беларусі зацягнуўся ажно на два стагоддзі), дык зусім іншымі меркаваннямі ўвесь час кіраваліся польскія магнаты і шляхта, служыцелі каталіцкай царквы. Яшчэ і ў XVIII стагоддзі ў шэрагу месцаў яны, нават добра ведаючы, што парушэнне прынцыпу добраахвотнасці можа пасеяць варожасць паміж мясцовым беларускім насельніцтвам, праліць кроў, ішлі на гвалтоўны перавод праваслаўных храмаў ва уніяцкія, ад чаго несла страты не так сама гэтая рэлігія, як яе вернікі. Вядомы, напрыклад, такі факт, што ў 1723 годзе праваслаўная царква св. Ільі ў Мсціслаўі супраць волі яе прыхаджан была перададзена уніятам, "...а людзей праваслаўных, — чытаем у запісцы расійскіх паслоў у Рэчы Паспалітай К. і С. Даўгарукавых польскаму каралю, — якія прасілі аб той царкве, шаблямі секлі, а па іншых стралялі; раніцай жа на другі дзень, забраўшы мноства ў горадзе тамтэйшых абывацеляў, да езуіцкага кляштара загналі і тама іх палкамі да смерці білі..."

Сцвярджэнню уніяцкага ідэала на Беларусі не ў малой ступені садзейнічала і тое, што ў яго заўсёды, хаця і не так багата, былі прыхільнікі і з боку заможных станаў грамадства. Дбаў пра грэка-католікаў і прадстаўнік вядомага магнацкага роду на Беларусі паэт і эканаміст, дзяржаўны дзеяч Іаахім Літавор Храптовіч (1729—1812). У сваім маёнтку Шчорсы ён пабудаваў за ўласныя сродкі уніяцкую царкву.

## 4. МІЖКАНФЕСІЙНАЯ НАПРУЖАНАСЦЬ ЗАХОЎВАЕЦЦА

Рознага роду канфлікты і непаладкі, што мелі месца ў рэлігійным жыцці ў першыя дзесяцігоддзі, як пусціла свае карані на Беларусі уніяцкая царква, працягвалі давацца ў знакі і пазней. Практычна на працягу ўсяго перыяду існавання яна так і не стала сваёй ні для праваслаўнай царквы, ні для каталіцкага касцёла. Не можа не здзіўляць, адкуль толькі браліся ў грэка-рымскай царквы сілы, каб жыць і шырыць сваю дзейнасць у такіх неспрыяльных умовах. Зразумела, без падтрымкі народа ёй ніколі не ўдалося б такое. Уніяцкая царква жыла і функцыяніравала не з ласкі Ватыкана, духоўных і свецкіх уладаў Рэчы Паспалітай, а дзякуючы толькі сваім уласным намаганням, што цалкам і поўнасцю адпавядала настрою і жаданням вернікаў.

У інтарэсах лепшага іх царкоўнага абслугоўвання уніяцкае духавенства праяўляла належны клопат аб будаўніцтве новых і добраўпарадкаванні ўжо раней уведзеных у эксплуатацыю храмаў. Між іншым, іх заўсёды не хапала. Па-першае з-за спусташальных набегаў войскаў маскоўскай дзяржавы і казакоў на беларускія землі, у час якіх назнарок знішчаліся уніяцкія культавыя пабудовы, і, па-другое, з-за гвалтоўнага прысваення іх сабе каталіцкім духавенствам, звычайна самых найлепшых. Замест таго каб дапамагаць у гэтым уніяцкай царкве, з якой разам падпарадкоўваліся папе рымскаму, на практыцы адбывалася паміж імі нешта зусім процілеглае. Нічым іншым, як рабаўніцтвам, нельга ў дачыненні да грэка-рымлян назваць, да прыкладу, забранне падскарбіем надворным Рэчы Паспалітай Антоні Тызенгаўзам у 1775 годзе уніяцкага Быценскага кляштара і перадачу яго католікам. Належаў ён ордэну базыльян і лічыўся адным з самых дыхтоўных. Пры кляштары меліся духоўная школа (навіцыят) і шпіталь, у пачатку XVIII стагоддзя пабудавана Троіцкая царква. Праўда, часам назіраліся з'явы ў многім зусім процілеглага характару, калі высокім уніяцкім духоўным асобам удавалася паўплываць на прапольскі настроеныя палітычныя колы Рэчы Паспалітай, і яны прымалі неапраўданыя захады па прымусовым захопе праваслаўных храмаў, насаджэнні сярод беларусаў грэка-рымскай веры. У якасці прыкладаў можна назваць выдадзеную ў 1635 годзе польскім каралём Уладзіславам IV грамату, у адпаведнасці з якой усе цэрквы ў Віцебску, Полацку і Навагрудку маглі быць толькі уніяцкімі; прынятую ў 1669 годзе польскім Сеймам пастанову аб выгнанні з месцаў сталага пражывання і канфіскацыі маёмасці асобаў, што перайшлі з уніяцтва ў праваслаўе. Такой палітыкай польскія свецкія і духоўныя ўлады вельмі ўмела сеялі варожасць паміж беларусамі розных хрысціянскіх веравызнанняў.

Разам з тым шмат спрэчак з-за хрысціянскіх храмаў узнікала і паміж самімі уніятамі і праваслаўнымі, прычым не толькі на працягу XVII стагоддзя, калі ішоў найбольш масавы перавод апошніх у грэка-рымскую веру, а разам з гэтым перадаваліся ў новыя рукі і іх цэрквы. У большасці выпадкаў гэта адбывалася мірным шляхам, а дзе-нідзе ўжывалася і сіла. Напады уніятаў на праваслаўныя святыні не спыняліся і ў XVIII стагоддзі. Вядома, да прыкладу, што ў 1751 годзе яны разрабавалі Віцебскі праваслаўны манастыр св. Марка, знішчылі яго архіўныя дакументы.

Па сваёй велічнасці, унутраным аздабленні ўзведзеныя уніятамі храмы звычайна ўступалі не толькі каталіцкім, але і праваслаўным. Прычына адна: неставала матэрыяльных і фінансавых сродкаў. Заможныя ж станы беларускага народа падаліся ў каталіцызм ці пратэстантызм, а прыхаджанамі уніяцкай царквы з'яўляўся пераважна дробны люд. Але ўсё ж і яна пакінула нямала каштоўнага з культавай архітэктуры, у чым ёсць і заслуга зарубежных майстроў.

Справе уніяцкага культавага будаўніцтва вялікае значэнне надаваў біскуп полацкі і віцебскі Іясафат Кунцэвіч. Яго вельмі непакоіў жахлівы стан Сафійскага сабора ў Полацку, у які ён прыйшоў у выніку пажару ў 1607 годзе. Аднаўленчыя працы доўжыліся крыху больш за дзесяць гадоў, і ўвесь гэты час праваслаўная царква і каталіцкі касцёл ваявалі за права валодаць храмам, але ўсё ж дастаўся ён уніятам. Паводле распараджэння Іясафата Кунцэвіча быў адноўлены і багата ўпрыгожаны гэты будынак, а ў чатырох рагавых вежах непатрэбныя вярхі, якія царкве ніякай красы не давалі, давялося скінуць, а сярэднюю вежу, прыгожа аздобіўшы, зрабіць яшчэ больш высокай.

Своечасова і належным чынам паклапацілася уніяцкая царква аб стварэнні і развіцці ўласнай сістэмы адукацыі. І тут не абышлося без таго, каб не пасягнуць на якія-небудзь праваслаўныя навучальныя ўстановы. Упершыню такія прэтэнзіі былі прад'яўлены ў 1657 годзе да Берасцейскай праваслаўнай брацкай школы. Пазней да уніятаў перайшлі Пінская, Магілёўская, Менская, Навагрудская і іншыя брацкія школы. Справай адукацыі уніяцкай царквы кіраваў манаскі ордэн базыльян. Свае школы — падрыхтоўчыя і павышаныя — яны адкрывалі пры кляштарах, а ў шэрагу гарадоў стварылі навіцыяты, дзе рыхтавалі прапаведнікаў. З мэтай стаць бліжэй да народа, уплываць на яго ў патрэбным для сябе накірунку "уніяты ў 1613 годзе ўзаконілі права "уцыти всех наук" на розных мовах, у тым ліку на славянскай і рускай" (г. зн. старабеларускай).

Калі ва уніятаў не хапала ўласных навучальных устаноў, яны пасылалі сваю моладзь у каталіцкія альбо камандзіравалі за мяжу. Вядома, напрыклад, што па просьбе мітрапаліта Язэпа Руцкага некалькі юнакоў з уніяцкіх сем'яў вучыліся ў Нясвіжскай езуіцкай калегіі (заснавана ў 1584 годзе).

**Леанід Лыч.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 39—42.**

# ЛІСТ ДА УСЕВАЛАДА ІГНАТОЎСКАГА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**працэнтаў — палякаў, 20 працэнтаў — яўрэяў. Тэрмін праходжання каранціну ад 6 тыдняў да трох месяцаў. Стан баракаў жудасны, ежа мізэрная, бялізна поўнасцю адсутнічала, умовы ўтрымання негігіенічныя, ішло пагражальнае развіццё эпідэміі тыфу і іншых хваробаў".**

**Шукаючы выхаду з цяжкага становішча, у якім апынуліся, перабежчыкі звярнуліся да У. Ігнатоўскага. Але не паспелі атрымаць адказу, як іх адправілі ў Казань. І вось новае хадайніцтва і зноў да таго ж самага чалавека.**

***"Народны камісарыят асветы Беларусі тав. Ігнатоўскаму***

***ад Ярашэвіча Сяргея Мітрафанавіча, гр. Мінскай губ., Нясвіжскага павета, Ланьскай валасці, в. Чанавічы; Сланімскага Уладзіміра Бенядзіктавіча, гр. Мінскай губ., Нясвіжскага павета, Лясуноўскай валасці, в. Габруны, і Булаха Івана Фёдаравіча, гр. Віленскай губ., Вілейскага павета, Хаценчыцкай валасці, в. Пляшчаны.***

*Мы, перабежчыкі, Ярашэвіч Сяргей, Сланімскі Уладзімір, якія скончылі ў Польшчы па 7 (сем) класаў Нясвіжскай рускай гімназіі, і Булах Іван, які скончыў 6 (шэсць) класаў Радашковіцкай беларускай гімназіі, як дзеці маламаёмных сялян, не маючы сродкаў прадаўжаць адукацыю ў Польшчы як на рускай, так і на беларускай мовах, але не жадаючы паступаць у польскія навучальныя ўстановы, перайшлі граніцу з мэтай знайсці магчымасць у ССР Беларусі прадаўжаць адукацыю на сваёй роднай мове.*

*Калі мы перайшлі граніцу і з'явіліся ў пагранасобадзел, нас адправілі ў Барысаўскі карпункт, дзе мы даведаліся, што застацца ў межах ССР Беларусі нам нельга, што з'явілася для нас першым ударам. Візіт камісіі Беларускага Чырвонага Крыжа падняў нашы аслабелыя сілы, нам паабяцалі, што пры хадайніцтве наркамасветы Беларусі тав. Ігнатоўскага можам застацца ў г. Мінску. Хуткі ад'езд з Барысава не даў нам магчымасці даведацца пра адказ на паданыя заявы, і ў цяперашні час мы знаходзімся ў г. Казані. Калі нас вызвалілі з ДПУ 24 снежня, мы даведаліся, што знаходзімся ў становішчы адміністрацыйна высланых і на працягу 2-х гадоў не маем права выехаць з г. Казані. Не маючы ні родных, ні знаёмых, мы павінны былі прыпыніцца ў халоднай кватэры, якая апальвалася раз у тыдзень, нічым не забяспечаныя. На нашыя спробы атрымаць адкуль-небудзь матэрыяльную падтрымку ці паступіць у навучальную ўстанову мы атрымлівалі толькі адмоўныя адказы. Пасля шматразовых хадайніцтваў нам пашчасціла толькі паступіць на абутковую фабрыку ў лік чорнарабочых, што давала магчымасць бядотнага існавання, але цяпер і гэта страчваем, бо падлягаем скарачэнню, і зноў мы вымушаны ў падраных летніх касцюмах блукаць па горадзе і шукаць прыватную працу, якую праз біржу атрымаць не можам. Знаходзячыся ў Беларусі, мы маглі б атрымаць як адзенне, так і ўсё неабходнае, а таму просім тав. Ігнатоўскага аказаць магчымую дапамогу, пахадайнічаць аб дазволе выезду з г. Казані ў Мінск, дзе мы можам жыць паміж сваімі роднымі беларусамі і чуць сваю родную мову. Калі ж немагчыма Вам нічога будзе зрабіць, то вельмі прашу даць адказ нам, куды мы павінны звярнуцца і адкуль можам атрымаць дапамогу.*

*Спадзяёмся на Вас, таварышы беларусы, што не пакінеце нас загінуць у Татрэспубліцы, а дасце магчымасць вярнуцца на сваю родную старонку Беларусь, жыць і працаваць разам са сваімі братамі-беларусамі.*

*28/І-24 г.*

***Ярашэвіч Сяргей***
***Сланімскі Уладзімір***
***Булах Іван***

г. Казань
вул. Фуксоўска-Маскоўскай, д. № 8/56, кв. 16".

Народный Комиссариат Просвещения Белоруссии
тов. Игнатовскому.

от Ярошевича Сергея Митрофановича, гр. Минской губ. Несвижского уезда, Ланской в. дер. Чановичи ...

... о разрешении выезда из г. Казани в Минск, где мы можем жить между своими родными белорусами и слышать свой родной язык. Если-же невозможно Вам ничего будет сделать, то очень прошу дать ответ нам, куда мы должны обратиться и откуда можем получить (какую) помощь.
Надеемся на Вас товарищи белорусы, что не оставите нас погибнуть в Татреспублике, а дадите возможность вернуться в свою родную сторону Белоруссию, жить и работать вместе со своими братьями белорусами.
28/I 24 г. Ярошевич Сергей. Слонимский Владимир. Бу...
г. Казань ул. Фуксовско-Московской д. № 8/56 кв. 16.

З таго далёкага 1924-га прайшло больш 70-ці гадоў. Захацелася даведацца, як склаўся лёс аўтараў ліста, ці ўдалося браткам-беларусам вярнуцца з чужыны на Бацькаўшчыну. Пачаліся росшукі. Паслала лісты ў Маскву, Казань, Іркуцк, а найперш — у сельскія Саветы, на радзіму аўтараў паслання: у Ланскі і Лявонавіцкі сельсаветы Нясвіжскага раёна і Хаценчыцкі — Вілейскага раёна.

Адправіўшы лісты, з нецярплівасцю чакала адказаў. Была вельмі здзіўлена, калі праз некалькі дзён атрымала пісьмо з Хаценчыц. Аказалася, што з-за хвалявання і спеху не напісала прозвішча таго, аб кім прасіла сабраць звесткі. Праўда, незвычайна апетытыўна атрымала і другі ліст, у якім сакратар выканкома Яўгенія Ігнатаўна паведаміла аб тым, што ёй удалося даведацца. Неўзабаве прыйшлі адказы і з Нясвіжчыны. Было вельмі прыемна, што ўсе адрасаты з сельсаветаў лісты напісалі на добрай беларускай мове.

Архівы расійскіх гарадоў даслалі адмоўныя адказы: "няма", "не пражываў", "не вучыўся".

А цяпер коратка аб кожным.

**Ярашэвіч Сяргей Мітрафанавіч.**

Відаць, ён пісаў ліст ад траіх. Старшыня Ланскага сельсавета Тамара Каспар падказала адрас яго пляменніцы Ярашэвіч (Плаксы) Валянціны Васільеўны, якая расказала, што пасля Казані Сяргей жыў у Маскве. Ажаніўся. Меў сына Валодзю, які жыве ў Маскве. Адраса яго ніхто не ведае, ніякай сувязі з ім не падтрымлівае. Спроба даведацца што-небудзь з Масквы не дала ніякіх вынікаў. Валянціна Васільеўна даслала фотаздымак Сяргея (здымаўся у Казані ў 1927 годзе), падпісаны ім уласнаручна.

**Сланімскі Уладзімір Бенядзіктавіч.**

Як паведаміў старшыня Лявонавіцкага сельсавета Мікалай Георгіевіч Камяк, у Ліпскім сельсавеце працуе сакратаром яго пляменнік Сланімскі Васіль Ігнатавіч, а ў Мінску жыве пляменніца Сланімская Марыя Ігнатаўна.

З лістоў і гутарак з імі высветлілася наступнае. Нарадзіўся Сланімскі У. Б. у 1903 годзе. Пасля Казані пераехаў у Іркуцк, набыў адукацыю, працаваў у будаўнічых арганізацыях. Пасля вайны прыязджаў у госці на радзіму, у Габруны. Апошні раз быў у 1962 годзе. Слаў лісты, фотакарткі. Адну з іх перадала нам Марыя Ігнатаўна. На жаль, дата на ёй не пазначана.

Сама Марыя Ігнатаўна таксама ездзіла ў госці да дзядзькі, хацела паступаць вучыцца ў Іркуцку. Але чужая старонка не прываблівала, і яна вярнулася дадому. Ці былі ў дзядзькі дзеці, пляменнікі не ведаюць, ніякіх сувязяў з другой радзімай Уладзіміра Бенядзіктавіча не падтрымліваюць.

**Пра Булаха Івана Фёдаравіча** напісала Яўгенія Ігнатаўна, сакратар выканкома Хаценчыцкага сельсавета:

"Хачу напісаць Вам пра тое, што ўдалося даведацца пра Булаха Івана Фёдаравіча.

Ён нарадзіўся ў 1901 годзе ў сялянскай сям'і на хутары Пляшчаны Вілейскага раёна. Бацька з маці працавалі на зямлі, вялі сваю гаспадарку. У сям'і было сямёра дзяцей: пяць хлапцоў і дзве дзяўчынкі. Цяга хлопца да навукі была заўважана бацькамі, і хоць цяжка было пракарміць вялікую сям'ю, але Іван пайшоў вучыцца ў Радашковіцкую гімназію яшчэ з адным хлапчуком. Закончыў 6 класаў гімназіі і вярнуўся дамоў, але ў хуткім часе белапалякі захапілі частку Беларусі, у тым ліку і родны хутар Пляшчаны. Тыя, хто не змог змірыцца з гэтым (асабліва моладзь), вырашылі пайсці за граніцу ў Расію. І 6 хлопцаў у адну з цёмных начэй пакінулі родныя мясціны. Сярод іх быў і Іван. З таго часу мінула шмат гадоў, але ніхто не вярнуўся дадому. І толькі адзін лісток даляцеў ад Івана ў родную старонку. Але гэта было яшчэ да вайны, і, на жаль, дасканала ніхто не ведае пра далейшы лёс хлопца. Ліст той таксама не захаваўся. Непадалёку ад месца, дзе быў родны куток, цяпер стаіць просценькая невялічкая агарожа вакол магілы з надгробнай плітой, дзе пахаваны бацька Івана, брат Саша з жонкай (яны былі камсамольцамі) і бежанка Каця.

У незабыўным 1942 годзе з-за таго, што непадалёку ад хутара партызаны расстралялі паліцая, нямецкія карнікі наляцелі на хутар. У доме былі запёртыя 24-гадовы Саша з жонкай, а ў хляве працаваў бацька ды там і застаўся ляжаць расстраляны. У пошуках ежы да іх у дом прыйшла маладая жанчына ды так і засталася. Назвалася Кацяй. Яе забілі непадалёку, паласкала бялізну ў сажалцы. Цела прыцягнулі ў хлеў, і ўвесь хутар запалаў агнём. Так зверскі былі загублены яшчэ дзве сям'і з гэтага хутара.

Маці Івана не прыйшлося бачыць гэтай жудаснай з'явы, яна памерла ў пачатку вайны.

Ні братоў, ні сясцёр ужо няма ў жывых, а вось братавая жонкі, Мікалая і Паўла, жывуць і цяпер у нашым сельсавеце: адна ў вёсцы Пляшчаны, а другая — у вёсцы Скабярэц.

У вёсцы Пляшчаны пражывае і родная пляменніца Івана — Саша, ад якой я даведалася пра ўсё гэта".

Такім чынам, ніхто з траіх адрасатаў Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага на бацькаўшчыну не вярнуўся. А колькі іх, беларусаў, расцерушыў лёс па неабсяжных прасторах Расіі і ўвогуле былога СССР. Не па сваёй волі пакінулі яны родную старонку, і ні дзецям, ні ўнукам не суджана жыць на радзіме сваіх бацькоў і дзядоў.

На вялікі жаль, у архіве не знойдзены дакументы, якія паказвалі б, ці хадайнічаў У. М. Ігнатоўскі за беларускіх хлопцаў.

**Матэрыял да друку падрыхтавала Аляксандра ГЕСЬ.**





**НА ЗДЫМКАХ:** Сяргей ЯРАШЭВІЧ у Казані. 1927 г.; Уладзімір СЛАНІМСКІ; пісьмо Усеваладу Ігнатоўскаму.

## З ЎСІХ СВЯТАЎ — СВЯТА





(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

**У мадоннаў Аляксея Кузьміча ўжо ёсць шырокі розгалас. Калі меркаваць па словах Прэзідэнта Беларусі, цяпер розгалас гэты пашырыцца. А. Лукашэнка пабываў на выставе, агледзеўшы карціны, ён упэўнена заявіў, што такую выставу павінны ўбачыць і ў Кіеве, і ў Маскве, і ва ўсім славянскім свеце.**

**— Праз вобраз мадонны я хачу паказаць веліч чалавечай цывілізацыі, — гаворыць мастак. Многія карціны А. Кузьміча — увасабленне міласэрнасці, спачування і дабрыні, сімвал якіх — жанчына-маці.**

**НА ЗДЫМКАХ: Прэзідэнт А. ЛУКАШЭНКА наведаў выставу "Свет славянскіх мадоннаў"; работы А. КУЗЬМІЧА "Бараць-ба са змеем", "Натхненне".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА

# І Ў СЯРПЕ, І Ў ПЕСНІ

Даколь — вёска, якіх шмат на Глушчыне. Гэта на першы погляд. На самай жа справе цвіце тут дрэва народнага мастацтва, якое даўней шумела пышнай кронай.

Песні ў Даколі аўтэнтычныя, першародныя. Ні адна вёска ў раёне не можа пацягацца ў гэтым сэнсе з Даколлю. На дакольскія песні звярнулі ўвагу навукоўцы з Мінска, з Інстытута праблем культуры.

Адна з удзельніц мясцовага фальклорнага гурта Надзея Сокал любіць песню "Саколе, мой саколе": "У панядзелак найму жнеек, а ў аўторак прышлю касцоў сорак, а ў сераду прыду сам паперадў". Песня падабаецца спявачцы і таму, што яе прозвішча перагукаецца з назвай гэтай жніўнай песні.

— Маці мая была вельмі добрай жнейкай, — расказвае Надзея Іванаўна. — Здавён былі такі парадак: жыта зажынала тая жанчына, якая менш за ўсіх парэзала пальцы сярпом. Маці была вельмі спрытная, і таму ёй нярэдка давяралі зажынаць першы сноп.

Еўдакія Сокал была таленавітая і ў сярпе, і ў песні. Не раз яна брала дачку Надзейку ў поле, дзе вучыла яе жаць і спяваць. Таму Надзеі Іванаўне здаецца, што песня "Саколе, мой саколе" пахне спелым хлебам, васількамі і дарогай, як сказаў паэт, закалыханай жытам. І ў кожнай удзельніцы гурта ёсць свае ўспаміны пра поле з матчынай песняй.

Фальклорнаму гурту ў Даколі 12 гадоў. Стварыла яго загадчыца мясцовага клуба Зінаіда Кузьміч.

— Здарылася так, — успомніла той час Зінаіда Андрэеўна, — што ў калгасе трэба было зрабіць дажынкі, ды такія, якімі яны былі даўней. Тады я звярнулася да жанчын, якія ведалі гэты абрад і жніўныя песні.

Так нарадзіўся самабытны калектыў. З таго саставу зараз спяваюць Надзея Сокал, Вольга Жук, Вольга Ермакова. Пазней у гурт прыйшлі сёстры Валянціна і Марыя Малашух, Ганна Буцько і Вольга Пальчанка. Невялікі гурт, а галасы яго даляцелі на фестываль аўтэнтычнай песні беларускага Падняпроўя, гэта значыць Магілёўшчыны, які праходзіў гэтым летам у Асіповічах і Магілёве. Усіх зачаравалі дакольскія песні "Ой, красна каліна ў лузе", "А ўжо вечар, вечар", "Ад панядзелка да панядзелка" і іншыя.

Наогул трэба сказаць, што свята песні ў Даколі доўжыцца круглы год. Гурт праводзіць калядаванне, у якім удзельнічаюць мясцовыя хлопцы і дзяўчаты. А на Вялікдзень гуртоўцы становяцца валачобнікамі, ходзяць па дварах з песнямі, славяць Хрыста і гасцінных гаспадароў. Нашы продкі ўмелі стварыць сапраўдныя творы, якія выхоўвалі ў душах людзей любоў, сумленнасць, дапамагалі жыць і працаваць. Вось адраджэннем гэтых каштоўнасцей і займаецца фальклорны гурт вёскі Даколь.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ.**

# БАРАЦЬБІТ З НЕПАРАДКАМ

## УСПАМІНЫ ПРА БАРЫСА САЧАНКУ

Бацьку я вельмі любіла. Цяжка перадаць пачуццё ў слове, зацікавіць чытача. А як паказаць веліч звышадоранай, разнабаковай асобы? Губляюся, пакутую ад сумненняў, здзіўляюся: шмат магу сказаць, ды што ж напісаць? Па бацьку засталася добрая памяць, хачу ўмацаваць яе ўспамінамі. Таму спыняюся, памойму, на самай прывабнай рысе характару Барыса Іванавіча Сачанкі.

Бацька страшэнна не цярпеў бруду і беспарадку.

Ахайнасць, акуратнасць у сынах руплівa выхоўвала мая бабуля, Вера Міхайлаўна Сачанка, да замужжа Мятліцкая. Сялянская хата Сачанкаў, жыхароў вёскі Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці, заўсёды цешыла вока ўтульнасцю, чысцінёй. У будзённым дні яна мела амаль святочны выгляд: баба Вера і вышывала, і ткала, і шыла... мыла, падмятала хату. Працавала з ранку да вечара. Былі яшчэ клопаты ў полі... Мне — дзіцёнку — хата Сачанкаў здавалася найпрыгажэйшым у свеце месцам. У аповесці "Вечны кругазварот" Барыс Сачанка па-мастацку апісвае інтэр'ер палескай хаты: "...шырокія лавы паўз сцены... стол, засланы белым ільняным абрусам... светлы кут, дзе, занавешаныя ручнікамі, вісяць... абразы... ложкі, засланыя клятчастымі посцілкамі і коўдрамі, з гарамі падушак у вышываных навалачках... куфар-скрыня... палок... услоны... чорны кут... сенцы"...

Велікаборскі погляд на ўпарадкаванне памяшкання, унутры якога жывеш, бацька прынёс у гарадскую кватэру. Змалку прывучаючы дзяцей да парадку, Барыс Сачанка сам быў узорам, дбайным гаспадаром. У чым гэта выяўлялася?

Кожную раніцу, прачынаючыся звычайна раней за ўсіх, бацька расчыняў форткі, браў бязвільготную анучу, выціраў пыл — уборка атрымлівалася неверагодна якаснай. Барыс Сачанка называў такую працу "прайсціся з анучкай"... Пасля бацька рабіў фіззарадку, абліваўся халоднай вадой, снедаў, ішоў на працу... Ён любіў, умеў пыласосіць, не пакідаў нідзе ніводнае пылінкі. Калі перабіраў кніжкі, дык у яго хапала цярплівасці перацерці іх ад першай да апошняй.

...Бацька здзяйсняў подзвіг, бо хварэў на алергію да хатняга пылу (дарэчы, перадалася мне). Прыбіраючы пыл, ён чхаў, потым не мог дыхаць. Закладала нос, прычым, бывала, на месяцы. Тады Барыс Сачанка ліў у нос кроплі ад насморку — і ўсё роўна "праходзіўся з анучкай".

Уважліва сачыў за парадкам у кабінеце, на кухні, у іншых пакоях. Рабіў маме, нам, дзяўчатам, заўвагі: прымушаў рэгулярна паліваць кветкі, мыць падлогу. Некалі ўзятыя з паліц, прачытаныя ўжо, кніжкі абавязкова трэба было ставіць на тое самае месца, адкуль іх бралі... Бяда, калі нечага не выканаеш! Бацьку мы пабойваліся.

На лецішчы ўсе хатнія Барыса Сачанкі мусілі палоць, паліваць грады, збіраць ягады... Бацька выдатна кіраваў. Аднак большасць дачных спраў (для мяне, паэтычнай натуры, нецікавых, сумных) выконваў уласнымі рукамі.

Пра бацькаву цягу да чысціні, парадку на працоўным месцы ведаю меней... Але лічу, што апошнімі гадамі кабінет галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" глядзеўся прыбраным і адпаведным свайму прызначэнню.

Барыс Сачанка дужа блізка да сэрца прымаў непарадак у сямейным або грамадска-палітычным жыцці. Справядлівы і чулы сем'янін, бацька імкнуўся цаною любых ахвяраў захаваць у хаце спакой, згоду; спрэчкі ці сваркі з-за дробязяў лічыў марнай тратай часу. У сямейных дачыненнях проста ненавідзеў эгаізм... Наадварот: Барыс Сачанка быў сапраўдным альтруістам; думаў, клапаціўся ў першую чаргу пра іншых.

Хваравіта ўздзейнічалі на бацьку крызіс, хаос у краіне. Ён з болем, трывогай сачыў па тэлебачанні за падзеямі ў грамадстве. Было, што ў якасці гледача прыходзіў на сякія-такія беларускія мітынгі. Цікавячыся палітыкай, не мог не каменціраваць працэсы, якія тады адбываліся. Наколькі памятаю, на палітычныя тэмы любіў гаварыць гадзінамі — спрачацца з сапраўднымі ды ўяўнымі апанентамі. Размовы пра палітыку ў нашай сям'і часта цягнуліся да позняй ночы.

Барыса Сачанку жыццё ўзнесла высока, незвычайныя здольнасці гэтага чалавека сучаснікі ацанілі па заслугах. Думаецца, асаблівa шчаслівы бацька быў таму, што ўплываў на падзеі, вырашаў лёсы, жыў актыўна і творча... Стараўся не думаць пра смерць, хаця некалі вуснамі аднаго з герояў аповесці "Горкая радасць вяртання" сказаў: "...прыйдзе час, калі і цябе не будзе, памрэш, далучышся да тых, хто ўжо даўно там, у зямлі... З чым ты туды прыйдзеш, як пагледзіш у вочы тым, з кім сустракаўся і, магчыма, сустрэнешся зноў там, на тым свеце?.. Не думаў я пра гэта, ніколі не думаў. Жыў, быццам у паветры на крылах лящеў".

Я мала напісала тут пра свайго бацьку. Бо ніхто не змог бы расказаць пра яго лепей, чым ён сам. Як невыносна крыўдна: Барыс Сачанка не пакінуў пасля сябе ні дзённікаў, ні мемуараў. Не паспеў іх стварыць ...У "Думках уроссып" заявіў калісьці: "Смерць... спыняе ўсё, не дае зрабіць таго, што дадумаў, да чаго ішоў гадамі, — абрывае, здараецца, на паўслове... І ўжо ніхто не скажа таго, што хацеў сказаць аўтар. Ніхто! Ніхто і ніколі!" З такой высновай нельга не пагадзіцца.

**Святлана ЯВАР.**

## РОДАМ З НАВАГРАДЧЫНЫ

6 кастрычніка споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Яна Булгака (памёр 4 лютага 1950 года), беларускага і польскага этнографа, фалькларыста, майстра мастацкай краязнаўчай фатаграфіі. Родам ён з вёскі Асташына, што на Навагрудчыне. Цікавасць уяўляюць і артыкулы Я. Булгака, як, напрыклад, "Велікодныя песні на Міншчыне (валачобнікі)", "Экскурсія на Свіцязь"... Але ў першую чаргу — яго краязнаўчыя здымкі, што ўзнаўляюць беларускія краявіды, жыццё вёскі, адлюстроўваюць сялянскія пабудовы, быт жыхароў. У 1919—1939 гадах Я. Булгак узначальваў лабараторыю мастацкай фатаграфіі пры Віленскім універсітэце. Вельмі шкада, што многія яго унікальныя работы не дайшлі да нашага часу. У 1944 годзе ў Вільні згарэла яго калекцыя, што налічвала каля 10 тысяч здымкаў.

*СЛОВА ПРА ЗЫГМУНТА НАГРОДСКАГА*

# БЫЛІ ЎСЁ Ж ЛЮДЗІ

Сёлетні год багаты на юбілеі Багушэвічавых прыяцеляў, ягоных прыхільнікаў. Наша грамадскасць адзначыла сто трыццатую гадавіну выдаўца славутай "Дудкі Беларускай" Вацлава Анчыца (1866—1938). Сто трыццаць гадоў сёлета споўнілася і яшчэ аднаму Багушэвічаваму сімпатыку — Зыгмунту Нагродскаму (1866—1937).

Зыгмунт Нагродскі найперш быў прадпрымальнікам, меў у Вільні, на Завальнай, 11, краму сельскагаспадарчых прыладаў. Але будучы прадпрымальнікам, шчыра цікавіўся духовым жыццём краю, як мог, спрыяў развіццю беларускай культуры, ахвяраваў на яе свае сродкі. Гэта ягоным коштам, за ягоны кошт у 1896 годзе была перавыдадзена другім выданнем Багушэвічава "Дудка Беларуская". Яе ж ён і пашыраў праз сваю краму. Прадаючы плугі, бароны, косы, сярпы, арфы, сячкарні адначасова надзяляў сялянаў і крамольнай на той час Багушэвічавай кніжкай.

Першыя легальныя газеты "Наша Доля" і "Наша Ніва" таксама мелі ад яго пэўную матэрыяльную падтрымку. У згаданых газетах Зыгмунт Нагродскі сістэматычна публікаваў абвесткі пра сваю краму. Яго можна лічыць першым беларускамоўным рэкламадаўцам. Пра гэта і раней згадвалі, але не вельмі акцэнтавалі ўвагу: не надта была сугучная дзейнасць Зыгмунта Нагродскага з эпохай іншай сацыяльнай скіраванасці. А вось зараз гэты акцэнт можна паставіць і толькі дзеля аднаго, каб сказаць, што і на заранку беларускага адраджэння знаходзіліся людзі, якія разумелі патрэбы нашай культуры і ахвяравалі на яе, як маглі.

Зыгмунт Нагродскі вельмі любіў творы Францішка Багушэвіча. Часта, апрануўшыся ў сялянскія строі, дэкламаваў вершы Мацея Бурачка. Ён і сам меў схільнасць да пісьма. Да нас дайшло некалькі ягоных вершаваных экспромтаў, а таксама драматычны абразок "На Каляды", заснаваны на беларускіх фальклорных матывах. Ягонае імя складальнікі шматтомнай энцыклапедыі "Беларускія пісьменнікі" ўключылі ў згаданае выданне як пісьменніка і культурнага дзеяча. Пра Зыгмунта Нагродскага ў нашым друку не раз пісалася. Пісаў пра яго Вячаслаў Рагойша, а яшчэ раней Максім Танк, Антон Луцкевіч і іншыя аўтары. Публікацыя Антона Луцкевіча, змешчаная ў "Зпісах Беларускага навуковага таварыства" за 1938 год, была самая прадстаўнічая. Яна пашырала найперш наша ўяўленне пра повязь Нагродскага з Францішкам Багушэвічам. Каштоўнасць згаданай публікацыі цяжка пераацаніць. Яна вярнула нашай літаратуры, апрача шэрагу цікавых звестак пра Багушэвіча, і з дзесятак дагэтуль невядомых ягоных твораў. Гэтай публікацыяй шчодра карысталіся і карыстаюцца ўсе нашы даследчыкі Багушэвічавай творчасці з удзячнасцю яе аўтару. Але высвятляецца, Антон Луцкевіч пісаў пра Зыгмунта Нагродскага не адзін раз. У фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва захоўваецца рукапіс дагэтуль не апублікаванага ўспаміну Антона Луцкевіча пра Зыгмунта Нагродскага. Думаецца, зараз самая нагода яго апублікаваць, даць больш поўнае ўяўленне пра аднаго з тых, хто праз усё жыццё падтрымліваў беларускі нацыянальны рух не толькі словам, духам, але і сваёй капейкай.



Антон ЛУЦКЕВІЧ

# ЗЫГМУНТ НАГРОДСКІ * І ЯГО АДНОСІНЫ ДА БЕЛАРУСАЎ

## *(ПАСМЕРТНЫ ЎСПАМІН)*

Нагродскі жыў і працаваў на грамадскай ніве ў тыя часы, калі польскі лёзунг "za wasza i nasza wolnosc" меў яшчэ істотнае значэнне і не служыў, як цяпер, дзеля цынічных, аблыжных заяваў польскіх палітыкаў аб "традыцыйнай толеранцыі" да душаных грубай сілай беларусаў і іншых 1"mniejszosci[1]". Пакаленне, да якога належаў Зыгмунт Нагродскі, ішло запраўды рука ў руку з



беларусамі, вядучы барацьбу з варожай да абодвух народаў Расеяй. Але і паміма ўплыву панаваўшае тады ў сфэры, да якой належаў Нагродскі, ідэолёгіі памерлы дзеяч меў глыбокі сэнтэмент да беларусаў, да іх працы над нацыянальным адраджэннем.

Сын пахтара ў Зулаве — у Пілсудскіх — Зыгмунт Нагродскі ад першых дзён жыцця ўзрастаў у беларускай атмасферы, сябруючы ня толькі з "панічамі", але і сялянскімі дзяцьмі — сваімі равеснікамі. І мова польская — мова двара, — і мова беларуская — мова вёскі былі роўна блізкія і родныя для яго. У беларускім селяніне бачыў ён свайго брата і за лепшую долю для яго змагаўся тым шляхам, які — на яго погляд — вёў найпрасцей да мэты: шляхам адбудовы колішняй польскай дзяржавы, якая тады прадстаўлялася яму, як ідэал сужыцця народаў і адначасова ідэал сацыяльнае справядлівасці. Як жа горка расчаравала яго ў гэтай наіўнай веры адбудаваная Польшча...

Нагродскі вельмі любіў беларускія народныя песьні і казкі ды сквапна лавіў кожны вершык беларускі, які ці то выходзіў у свет у друку ці пераказваўся ў жывым слове. Але да 80-х гадоў — па-за творамі Дуніна-Марцінкевіча — блізу нічога ў беларускай мове не друкавалася... Вершы Б-ча часта дэклямаваў на рамесніцкіх вечарынках у Вільні і пры гэтым выступаў у беларускай сялянскай світцы. Багушэвіч, як вядома, нядоўга ўжыўся ў Вільні. Тут паміж ім і польскім грамадзянствам, перад усім — польскай адвакатурай — узняліся даволі вострыя канфлікты на ідэйным грунце, і беларускі паэта пакінуў места ды перабраўся ў свой двор Кушляны, у Ашмяншчыне. Вільня хутка забылася аб ім, але не забываўся аб паэце Нагродскі і час ад часу заглядаў у Кушляны. Тут некалькі разоў Н. фатаграфаваўся разам з сям'ёй Б-ча. Часта карэспандаваў з паэтай, які горка жаліўся яму на сваю самотнасць, на забыццё ўсімі віленскімі знаёмымі і прыяцелямі. Калі ж Багушэвіч памёр (у 1900 годзе, Нагродскі, які сам ня мог паехаць на пахароны прыяцеля, з'арганізаваў дэлегацыю ад віленскіх рамеснікаў (у гэтай сфэры Н. найбольш працаваў культурна й палітычна), каторая завезла на труну Б-ча вянок з беларускім надпісам — адрыўкам верша паэты: "Змоўклі песьні тыя, што іграў на дудцы"... Хутка пасля гэтага (у 1901 годзе) Н. быў арыштаваны і сядзеў у "прэдварылцы" ("Дом предварительного заключения") у Пецярбурзе. Адарваны ад роднае Зямлі, Н., відаць, балюча перажываў гэту разлуку, і ў яго з'явілася ахвота пісаць па-беларуску. Ён тады напісаў гэткі вершык — п. з. "Да жонкі маей у Вільні":

**Перастань тужыць, бабулька,**
**Што мужык твой гіне,**
**Бо калі Бог на апусьціць,**
**То не зьядуць сьвінні.**

**Яшчэ вырвуся з іх коґцяў,**
**Вярнуся у хату,**
**З табой разам ім за гэта**
**Абдумаць заплату.**

**І так доўга жыці будзем**
**У шчасьлівай долі,**
**Аж галоўкі势 стануць белы,**
**Як той сьнег у полі...**

Верш падпісаны імем Н-га: Зыгмяль — і датаваны: "Пецярбург. Прэдварылка. 1901 год".

Спадзяванні Н-га хутка здзейсніліся, і ён неўзабаве выйшаў на волю ды далей вёў сваю працу. А верш гэты ня быў адзіным беларускім творам яго. Калі ў Барэйкаўшчыне ў 1912 годзе было адкрыццё памятніка Сыракомлі, у гэтай урачыстасці прыняў учасце і Нагродскі, апрануўшыся ў беларускую світку, ён сказаў гэткі верш па-беларуску — уласны свой твор:

**Пастароньцесь, братцы мае,**
**Дайце ж прыступіцца,**
**Дайце ж і мне, хоць**
**у сярмязе,**
**Яму пакланіцца.**

**Бо і нашым ён быў братам,**
**І нас любіў шчыра;**
**І для нас лілася песьня,**
**Грала яго ліра.**

**Дайце ж глянуць на то мейсца,**
**Адкуль з яго грудзі**
**Раздаваўся голас вешчы:**
**"Мілуйцеся, людзі!"**

**Патуль зваў ён, патуль клікаў**
**З усей сваей сілы,**
**Аж пакуль не падарваўся,**
**Ня лёг да магілы.**

**Закапалі яго людцы,**
**Глыбай прывалілі,**
**"Вечны пакой дай му Пане" —**
**У Бога прасілі.**

**А ён кліча із магілы**
**І не перастане,**
**Пакуль ўсе не абаймуцца,**
**Міласць не настане.**

Вершык гэты вельмі характэрны для ягонага аўтара: тут сфармуляванне ўсяго грамадскага светапогляду Н-га, для цяперашніх часоў у Польшчы запраўды ж анахранічнага ў вуснах чалавека, які ўсё жыццё сваё працаваў для **ідэальнай** Польшчы і так глыбока быў расчараваны рэальнай.

Далей аўтар нататкі — Антон Луцкевіч — расказвае пра сваё знаёмства з Зыгмунтам Нагродскім. Адбылося яно ў Вільні ў 1904 годзе на канспіратыўным з'ездзе краёвай інтэлігенцыі. Пазнаёміў Антона Луцкевіча з Нагродскім брат Іван, які быў знаёмы з Багушэвічавым прыяцелем яшчэ раней. Гэтае знаёмства з Нагродскім было вельмі плённае і для братоў, і для беларускай культуры. "Увосені 1906 году, — распавядае далей Антон Луцкевіч, — распачалі мы выданне першага легальнага часопісу ў беларускай мове — "Нашае Долі", якую хутка замяніла "Наша Ніва". Нагродскі быў адным з першых падпісчыкаў іх і даваў добрыя платныя абвесткі аб сваім складзе і прадаваных машынах і гаспадарскіх прыладах, чым значна дапамагаў выдавецтву. Безумоўна, і для прадпрыемства Н-га было карысна рэкламавацца ў часопісе, які йшоў на вёску па ўсім нашым краі ў тысячах экзэмпляраў. Але гэта была бадай ці не адзіная польская фірма, якая карысталася беларускай газэтай, а час ад часу друкавала па-беларуску ўкладныя лісткі з рэкламай. Ахвотна даваў нам Н. і клішэ рысункаў да папулярных брашурак, што пры нашым безграшоўі мела гэтаксама пэўную вагу. Але найважней было тое, што Нагродскі быў для нас свайго роду "беспрацэнтным банкірам": у цяжкія мамэнты ён ніколі не адмаўляўся пазычыць на нашы выдавецтвы колькі сот рублёў, якія мы, ведама, з падзякай варочалі яму ў назначаны тэрмін. Вельмі здружыўся з Н. такжа Уласаў, які ад пачатку 1907 году асеў у Вільні дзеля працы ў "Нашай Ніве" і падпісываў яе як адказны рэдактар.<...>

У 1906 годзе ў Пецярбургу з'арганізавалася беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца". Суполка пастанавіла ў першы чарод перавыдаць творы беларускіх пісьменнікаў XIX ст. — Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча, а пасля ўжо друкаваць творы новых нашых паэтаў. У перагаворах з сям'ёй Багушэвіча аб прадажы права на перадрук Суполкай "Дудкі" і "Смыка" шмат дапамог Нагродскі. Ён жа памагаў пры ўкладанні яшчэ аднаго — не надрукаванага раней — зборнічку вершаў Багушэвіча п. н. "Беларуская Скрыпачка", якую мелася гэтаксама выдаць Суполка, даставаў одпісы нехапаючых вершаў. З вялікім піэтызмам перахоўваў Нагродскі пісьмы і ўсякія расказы Багушэвіча, якія, на вялікі жаль, пазней счэзлі з яго кватэры — падчас пастою чырвонаармейцаў. Усё гэта было зложана ў асобную папку, — дык, магчыма, што чырвонаармеец-беларус (?) узяў яе з мэтай адвезці ў Менск, дзе яна мо' і апынулася. У папцы быў і незвычайна рэдкі экзэмпляр зборнічка вершаў Багушэвіча п.н. "Тралялёначка".

З запісаў Антона Луцкевіча відаць, што Зыгмунт Нагродскі спрыяў беларусам і пры арганізацыі тэатра, бараніў ад шавіністаў, абураўся на Пілсудскага, быў незадаволены ягонай палітыкай, рабіў усё магчымае, каб найбольш поўна данесці да сучаснікаў воблік Францішка Багушэвіча.

***Свае нататкі Антон Луцкевіч пісаў у 1937 годзе на Вялікдзень у Вільні. На апошняй, чыстай старонцы наўскасячок зверху напісана: "Прачытана на пасяджэнні літ. маст. сэкцыі Бел[арускага] Нав. Т-ва. 4. IV 1937 г."***

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Зыгмунт НАГРОДСКІ з сям'ёй Францішка Багушэвіча. Кушляны (З архіва Пятра Глебкі); Вільня, Завальная, 11. Тут знаходзілася кантора З. Нагродскага; абвестка пра краму З. Нагродскага ў газеце "Наша Доля".**

---

[1] mniejszosci — меншасці

* Артыкул друкуецца з некаторымі скарачэннямі.

---

**ЗЫГМУНД НАГРОДЗКИ**

объяуляе што у яго складзи

у ВИЛЬНИ на ЗАВАЛЬНАЙ вулицы № 11

*прадаюцца вельми добрага гатунку ГАСПАДАРСКИЕ МАШИНЫ*

**Малацилки** фабрики „Бадэня" ручные и манежные

**Манежы** тое самой фабрыки, вельми легкие да працы.

**Сечкарни** Бентала Бадэня и иныхъ фабрикъ.

**Арфы** (веялки) рожной [illegible] американской выдумки.

На жадание **Зыгмунд Нагродзки высылае дармо книжки** у каторыхъ написана цана машин.

## ТЭАТРУ ЮНЫХ — СОРАК





Тэатральная грамадскасць Беларусі, сябры-калегі з усіх сталічных тэатраў і тэатральных калектываў абласных гарадоў рэспублікі, Міністэрства культуры і шэраг грамадскіх арганізацый Мінска на пачатку восені прыйшлі ў залу Тэатра юнага гледача, каб павіншаваць калектыў тэатра з юбілеем. У 1956 годзе тэатр упершыню падняў заслону. За сорак гадоў тэатр стаў своеасаблівай акадэміяй выхавання духоўнасці ў лепшых традыцыях нашай культуры больш чым для 10 мільёнаў гледачоў розных пакаленняў. І, нягледзячы на ўсе жыццёвыя складанасці, што выпалі на долю нашага грамадства за апошнія гады, спектаклі тэатра цікавыя юным гледачам. Іх па-ранейшаму захапляюць казачныя героі, радасць, вяселле, што пануюць на дзіцячых спектаклях на сцэне ТЮГа. Але кожная казка, кожны спектакль вучаць добраму, светламу, вучаць мудрасці. Бо ў казках заўсёды перамагае дабро.

НА ЗДЫМКАХ: акцёры тэатра на юбілейным вечары; калектыў Тэатра юнага гледача віншуе з юбілеем старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў драматург Аляксей ДУДАРАЎ.

Фота Мікалая ПЯТРОВА.

# УСЛУХОЎВАЮЧЫСЯ Ў МАЎЧАННЕ

У канцэртнай зале "Мінск" праходзіў фестываль "Дні ведаў". На ім адбылася сустрэча гледачоў з Шры Раві Шанкарам з Індыі. Ужо болей 14 гадоў ён кіруе рухам росту асобы. Яго праграма дапамагае людзям вызваліцца ад стрэсаў, стаць жыццярадаснымі і шчырымі, адшукаць свой шлях у жыцці.

"Дні ведаў" праводзіліся ў рамках міжнароднага гуманітарнага праекта, накіраванага на падтрыманне гуманнага духоўнага развіцця грамадства, паляпшэння ўзаемаадносін паміж людзьмі. На гэтай сустрэчы былі прадстаўнікі з такіх аддаленых краін, як ЗША, Канада, Германія, была таксама група (больш за сто чалавек) з Польшчы, прыехалі людзі з Расіі, Украіны, з многіх гарадоў Беларусі.

Пачынаючы фестываль з вядомых многім народных песень, вядучыя знялі ўсе бар'еры паміж гледачамі і сцэнай і напоўнілі залу мяккай, шчырай, прыязнай атмасферай. Прагучала беларуская "Купалінка", украінская і руская песні. Прычым спяваць разам з вядучымі пад акампанемент гітары мог кожны, каму былі вядомыя словы песень. А калі павінен быў прагучаць твор на цымбалах, то высветлілася, што інструмент яшчэ не прынеслі (як нярэдка ў нас бывае). Такія хвіліны часам прымушаюць пасмяяцца з самога сябе і кажуць, што жыццё прасцейшае, чым мы яго ўяўляем. Па ходу самой праграмы яшчэ не раз былі ўсплескі добразычлівага смеху, пасля чаго зала напаўнялася ціхім, прыемным маўчаннем і людзі з цікавасцю пазіралі на тое, што адбывалася на сцэне. Варта адзначыць, што на змену знаёмым нам песням прыйшлі індыйскія, якія з-за іх нескладанасці мог праспяваць кожны, няхай і не зусім правільна. І вось пад гукі такіх загадкавых усходніх мелодый гледачы сустракалі Раві Шанкара.

Тое, што ў далейшым можна было ўбачыць, спачатку ўразіла сваёй неардынарнасцю і разам з тым прастатой саміх такіх зносін. Маўчанне, якое панавала на сцэне, у першую хвіліну выклікала здзіўленне. "А чаму ж ён маўчыць?" Але яно доўжылася яшчэ хвіліну і яшчэ. Пасля прывітання першае, што сказаў Раві Шанкар, было: "Маўчанне — гэта лепш". Усміхаючыся, спрабуючы вымаўляць рускія словы, Раві Шанкар мімаволі прымушаў людзей усміхацца. "Трэба дарослым навучыцца быць дзецьмі", — казаў індыйскі настаўнік. "Аб чым вы хочаце, каб я расказаў?" — пытаўся ён. Прагучалі разнастайныя пытанні. Адказы Раві Шанкара былі немнагаслоўнымі і надзвычай простымі. "Вельмі мала часу мы праводзім у становішчы спакою, радасці і прыгажосці, — казаў індыйскі госць, — а гэтыя ж моманты і ёсць сапраўднае жыццё, усё астатняе — ежа, праца, хада, паездкі — гэта падрыхтоўка да гэтага жыцця".

У завяршэнне сустрэчы некалькі хвілін было адведзена медытацыі. А развітваючыся з настаўнікам, зала зноў заспявала індыйскую песню. За няпоўных дзве гадзіны Раві Шанкар змог звязаць сябе нейкай нябачнай повяззю з людзьмі, якія прыйшлі на гэтую сустрэчу. "Нішто так, як прастата, не садзейнічае збліжэнню людзей", — сказаў Леў Талстой.

Наталля СУРАЕВА.

## СМАЧНА ЕСЦІ

### ПЯЧЭННЕ «ДЗЮЙМОВАЧКА»

Для цеста: 2 шклянкі мукі, 200 грамаў сметанковага масла ці маргарыну, 1 шклянка смятаны, 100 грамаў густога яблычнага ці слівавага джэму.

Масла размяць у місцы, дабавіць смятану, сумесь старанна перамяшаць да атрымання аднароднай масы, усыпаць муку, замясіць аднароднае пластычнае цеста, пакінуць яго на 15—20 мінут, пакрыўшы сурвэткай, каб не абветрывалася. Цеста раскачаць вельмі тонка, часта накалоць і выразаць дробнай фігурнай выемкай пячэнне ў выглядзе кветкі памерам не больш двух-трох сантыметраў. Выпякаць у духоўцы пры тэмпературы 180—200 градусаў да светла-залацістага колеру. Ахаладжанае пячэнне змазаць джэмам і злучыць папарна. Падаваць да чаю ці соку.

### БАРАНКІ РАССЫПІСТЫЯ

400 грамаў мукі, 4 жаўткі (у тым ліку і для змазкі), 50 грамаў сметанковага масла, 3 сталовыя лыжкі смятаны, 3 сталовыя лыжкі цукру, 10 грамаў дражджэй.

Масла расцерці дабяла. Не перастаючы расціраць, дабаўляць па аднаму жаўтку і па сталовай лыжцы цукру, пакуль не будуць выкарыстаны ўсе жаўткі і ўвесь цукар. Затым дабавіць муку, расцёртыя дрожджы і цукар. Усё добра вымешаць, цеста павінна быць крутым. Паставіць яго ў цёплае месца для пад'ёму. Калі паднімецца, падзяліць на маленькія баранкі, пакласці на бляху.

Пасля таго, як адстаіцца, змазаць жаўтком, пасыпаць цукрам і выпякаць пры тэмпературы 190—200 градусаў.

### КАТЛЕТЫ БУЛЬБЯНЫЯ З ГРЫБНЫМ СОУСАМ

Для катлет: бульба — 500 грамаў, жаўткі яек — 3 штукі, сухары ці пшанічная мука — 50 грамаў, алей.

Для соусу: сухія грыбы — 50 грамаў, мука — 1 сталовая лыжка, цыбуля — 1 галоўка, масла — 2 сталовыя лыжкі.

Гарачую адвараную бульбу прапусціць праз мясарубку і змяшаць з яечнымі жаўткамі. З гэтай масы зрабіць катлеты, абваляць іх у сухарах ці муцэ, абсмажыць з двух бакоў на патэльні і паставіць на 5—10 мінут у духоўку.

Соус гатуецца наступным чынам: прамытыя ў цёплай вадзе сухія грыбы заліць трыма шклянкамі халоднай вады і праз 2—3 гадзіны зварыць (без солі, у гэтай жа вадзе). І столькі ж лыжку мукі і столькі ж масла прасмажыць да светла-карычневага колеру і развесці дзвюма шклянкамі гарачага працэджанага грыбнога булёну. Атрыманы соус варыць пры слабым кіпенні 15—20 мінут.

Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць, дабавіць нашынкаваныя грыбы і яшчэ раз усё разам прасмажыць, затым перакласці ў соус, дабавіць па смаку соль і даць крыху пакіпець.

## ВЫСТАВЫ

У мастацкай галерэі "Медзя" адкрылася выстава мастацкіх твораў карэйскай народнай творчасці. Яе арганізавалі гандлёвае прадстаўніцтва Карэйскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускае рэспубліканскае таварыства сяброў КНДР імя Кім Ір Сена і мастацкая галерэя "Медзя".

У разнастайных работах, што прадстаўлены ў экспазіцыі, беларускія прыхільнікі мастацтва Усходу змаглі ўбачыць маляўнічыя карціны, выкананыя незвычайнай тэхнікай, вышыўкай шоўкам, складзеныя з кавалкаў перламутру ці разной косці, калярова пяску ці тоўчанага каменю. Усе работы знаёмяць беларускіх гледачоў з незнаёмай нам тысячагадовай культурай, гісторыяй, прыродай Карэі, з дасягненнямі карэйскага народа.



НА ЗДЫМКУ: работа з выставы.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1126. Падпісана да друку 21.10.1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.